14 сакавіка 2014 | № 10 (379)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10008

**4 КАНСТЫТУЦЫІ — 20 ГАДОЎ**

Канстытуцыя 1994 года мела пэўныя хібы. Зразумела, адразу ідэальным такі дакумент зрабіць немагчыма. А якія хібы ў сённяшняй канстытуцыі? Пра гэта мы распыталі былога сябра Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова і падпісанта першай Канстытуцыі, былога спікера Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мечыслава Грыба



**6 ГЭТА БЫЛО ПЕКЛА**

23-гадовая гамяльчанка Марыя Квіцінская гатавала кактэйлі Молатава для ўкраінскіх пратэстоўцаў у той час, як цэнтр Кіева расстрэльвалі снайперы

**11 ПАЛАЦЫ І ДЫКТАТАРЫ**

Кадры з палаца Міжгор'е, якія абышлі ўвесь свет, — добрая нагода, каб прааналізаваць, якое месца аўтарытарныя палітыкі і дыктатары адводзяць сваім рэзідэнцыям



**14 САКАВІЦКАЯ МАБІЛІЗАЦЫЯ**

21 сакавіка 1939 года, амбасадар Польшчы ў Берліне Юзаф Ліпскі атрымаў з рук Рыбентропа спіс патрабаванняў Трэцяга Рэйху да Польшчы. Польшча павінна адмовіцца ад «паморскага калідора» і пагадзіцца на нямецкую акупацыю Гданьска. Стала ясна — гэта вайна

# Бомба пад Патсдам

**Анексія Крыму Расіяй па сутнасці падрывае фундаментальны прынцып сусветнага парадку, закладзены Ялцінскай (Крымскай) і Патсдамскай канферэнцыямі. Менавіта — прынцып непарушнасці межаў.**

Аляксей КАРОЛЬ




Гэты прынцып нават вытрымаў развал СССР. На ім грунтаваліся Белавежскія пагадненні, шырэй — адбудоўвалася ўся сучасная сістэма ўзаемадачыненняў краін былога Савецкага Саюза. Нязменнасць межаў у Еўропе дазволіла захаваць на кантыненце мір.

Нечаканая крымская вайна (дзякуй Богу, пакуль бяскроўная), распачатая Крамлём, паставіла гэты мір пад рэальную пагрозу. Па розных дадзеных, ад 20 да 30 тысяч расійскіх вайскоўцаў ужо знаходзяцца на тэрыторыі Крыма, да межаў паўвыспы перакідваюцца дадатковыя расійскія войскі.

Еўрапейскія краіны і ЗША адрэагавалі на крымскі крызіс санкцыямі і ваеннай актывізацыяй уздоўж межаў з Украінай. Як сказаў міністр замежных спраў Германіі Франк-Вальтэр Штайнмаер, «Мы, як сябры Еўрапейскага саюза, усе разам заяўляем, што выхад Крыму са складу Украіны стаў бы непрымальным, з пункту гледжання міжнароднага права, і запатрабаваў бы рэакцыі».

Анексія Крыма нясе ў сабе пагрозу працягу ў адносінах да іншых краін. З боку Расіі, найперш, у якой, акрамя Крыма, ужо ёсць прэтэнзіі да краін Балтыі. Але ж не выключана, што створаны Расіяй прэцэдэнт можа быць успрыняты і іншымі дзяржавамі. Ужо супраць Расіі. Выглядала вельмі натуральным, каб Германія паставіла пытанне аб вяртанні ім Кёнігсберга, што быў аддадзены СССР па Патсдамскай дамове.

Чым жа была абумоўлена агрэсіўная расійская акцыя адносна Украіны, у чым яе сапраўдны схаваны разлік?

Афіцыйная крамлёўская версія — абарона правоў рускамоўнага насельніцтва ад дыскрымінацыі і гвалту з боку ўкраінскіх уладаў — не ўспрымаецца ўсур'ёз нават самімі аўтарамі гэтай версіі. Гэта не болей чым шалёная прапагандысцкая кампанія, якая ва Украіне відавочна правалілася. Масавага абурэння «ўкраінскім прыгнётам рускіх», на што разлічвалі крамлёўскія палітыкі, не наглядаецца ні ў Крыме, ні тым болей ва ўсходніх рэгіёнах Украіны.

Расія — краіна са слабай эканомікай, якая трымаецца ці не выключна на продажы сыравіны, са слабай арміяй, зноў жа залежнай ад заходніх тэхналогій і паставак, распачынае аперацыю па захопу тэрыторыі суседняй дзяржавы. Гэта падобна на блеф. Аднак блеф абярнуўся бомбай пад палітыку дыялогу, пад усю еўрапейскую цывілізацыйную мадэль.

Трэба было мець сапраўды моцную матывацыю ці не мець мазгоў, каб кінуцца ў гэтую авантуру. Магчыма, крамлёўскія стратэгі не пралічылі моцны адпор: маўляў, інфантыльныя заходнія палітыкі патрасуць заявамі і супакояцца, праглынуць? Таму зараз так спяшаюцца з рэферэндумам, з завяршэннем бліцкрыгу, бо прамаруджванне да смерці падобнае.

Уладзімір Пуцін — трыумфатар і закладнік уласнага палітычнага курсу на аднаўленне вялікай Расіі з сабой на чале, які пацярпеў катастрафічны правал на стратэгічна вырашальным для яго ўкраінскім накірунку.

Гэты курс яны разам з Януковічам выбудоўвалі з 2004 года. Рэванш за паразу Януковіча на тых прэзідэнцкіх выбарах ім удалося ўзяць на выбарах 2009 года. Але пацярпелі дзве паразы запар на мяжы 2013–2014 гадоў: на адмове Януковіча ад падпісання пагаднення аб асацыяцыі з Еўрасаюзам, на брутальным сілавым разгоне студэнцкага пратэсту на Майдане і прыняцці дыктатарскіх законаў. Украіна выбухнула рэвалюцыйным Майданам.

Правал палітыкі Пуціна, а з тым і яго ўласная нікчэмнасць як палітыка, былі настолькі відавочныя, што ён мусіў шукаць тэрміновы адказ. Цывілізаваным адказам маглі б стацца адмова ад вялікадзяржаўных памкненняў і разварот Расіі да сапраўдных дэмакратычных рэформ. Прагматычным адказам, у рамках, зразумела, пуцінскай сістэмы каардынат, — не пярэчыць пагадненню аб асацыяцыі Украіны з ЕС і працягваць сваю гульню па пераўтварэнні Украіны ў васала Расіі. І трэці — згуляць на абвастрэнне імперскіх комплексаў Расіі, сцвердзіцца і ўзвысіцца на гучнай перамозе — інкарпарацыі Крыма ў склад РФ.

Комплекс непаўнавартаснасці і туга па імперскай велічы, палітычнае фантазёрства і дакладна вывераная спецаперацыя — грымучая сумесь — узялі верх.

Крымскую аперацыю нельга назваць спантаннай: занадта арганізавана яна праходзіла. Ды і ўзор, па якім скапіравана, лёгка прачытваецца — уварванне савецкіх войскаў у Венгрыю ў 1956-м, у Чэхаславакію ў 1968-м. Лёгка праглядаецца і ўласны вопыт па ўтрыманні Прыднястроўя, вайны супраць Грузіі.

Верагодней за ўсё, у Крыме быў рэалізаваны, назавем умоўна, «план С», пасля правалу «плана А» — адмова Януковіча ад асацыяцыі Украіны з ЕС, «плана В» — 15 мільярдаў крэдыту і спробы сілавога разгону Майдана.

Як, відаць, і разлічвалі аўтары, рэалізацыя «плана С» дала імгненны эфект. Рэйтынг Пуціна сягнуў за 60 працэнтаў. Патрыятычная хваля накрыла краіну. Апазіцыя ў разгубленасці. Голас антываеннага пратэсту амаль заглушаны. Тым не менш гэта голас не купкі дысідэнтаў, што пратэставалі супраць уварвання савецкіх войскаў у Прагу ў 1968 годзе. Гэта дастаткова масавы пратэст, які ўладам даводзіцца стрымліваць не ў апошнюю чаргу рэпрэсіўнымі мерамі.

Трыумф і параза Уладзіміра Пуціна ідуць поруч. Але сам ён ужо перайшоў рубікон, збочыць па добрай волі ўжо нельга. Мірная развязка драмы, ім распачатай, залежыць ад сілы ўнутранай пратэстнай хвалі і пазіцыі міжнароднай супольнасці.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ



### Віцебск. «Дняпроўская праўда» супраць праўды

**Віцебскі незалежны кандыдат у дэпутаты абласнога савету не можа скарыстацца сваім правам надрукаваць агітацыйныя матэрыялы ў дубровенскай раённай газеце.**

У гэтым яму адмаўляе рэдактар дзяржаўнага выдання. І ЦВК у адказе на скаргу Аляксея Гаўруцікава падтрымлівае гэтую пазіцыю, маўляў, «мае права адмовіць».

Рэдактар «Дняпроўскай праўды» Святлана Шурпакова заявіла, што ў праграме кандыдата ўтрымліваецца «прыхаваны заклік да змянення канстытуцыйнага ладу і змены ўлады». І таму агітацыйныя матэрыялы надрукаваныя не будуць.

«Кожны кандыдат мае права скарыстацца сродкамі выбарчага фонду і надрукаваць свае агітацыйныя матэрыялы ў СМІ. Гэта маё права! І рэдактар не можа ладзіць нейкую цэнзуру. Заўвагі мне мусіць рабіць выбарчая камісія, а не рэдактар. Тым больш, што гэты тэкст рэдактары ўжо бачылі: я агучваў яго падчас радыёвыступу, і заўвагаў да мяне не было. Таму я напісаў скаргі на дзеянні Святланы Шурпаковай. У пракуратуру і ў ЦВК», — распавёў кандыдат.

Адказ з ЦВК Аляксей Гаўруцікаў ужо атрымаў. З яго вынікае, што кандыдат, канешне, мае права на публікацыю матэрыялаў, толькі вось СМІ таксама мае права — адмовіць.

«Мне адказалі, што паводле закону аб СМІ ніхто не мае права змусіць выданне надрукаваць адхіленыя матэрыялы. І што выбарчае заканадаўства рэгулюе толькі грашовыя ўзаемаадносіны паміж кандыдатам і СМІ. Так што маё права на публікацыі цалкам перакрэслена правам выдання нічога не друкаваць. І нават без тлумачэння прычын», — кажа Аляксей Гаўруцікаў.



### Гродна. Абласны суд не задаволіў скаргі

**У Гродзенскім абласным судзе 11 сакавіка прайшоў разгляд скаргаў трох актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі — Аляксандры Васілевіч, Ежы Грыгенчы і Алены Давідовіч.**

Усе яны імкнуліся аспрэчыць пастанову суддзі Алены Пятровай, якая пакарала партыйных актывістаў за правядзенне 7 лютага бягучага года нібыта несанкцыянаванага пікету вялікімі штрафамі. Суддзя абласнога суда Андрэй Кавальчук не стаў напружваць сябе дэталёвым разглядам сутнасці справы — на разгляд трох скаргаў яму хапіла ўсяго 15 хвілін.

Нагадаем, што 7 лютага ў цэнтры Гродна адбыўся перадвыбарчы пікет кандыдатаў ад АГП з удзелам старшыні партыі Анатоля Лябедзькі. Пазней на ўдзельнікаў пікету былі складзены пратаколы нібыта за адміністрацыйныя правапарушэнні — менавіта за тое, што паралельна з выбарчай агітацыяй сябры АГП збіралі подпісы супраць увядзення новай пошліны на аўтамабілі. Партыйныя актывісты лічаць, што яны нічога не парушылі, таму што прадстаўлялі афіцыйную пазіцыю сваёй партыі ў гэтым пытанні, а права на свабоду выказванняў ім гарантуе Канстытуцыя краіны. У выніку 12 лютага ў Ленінскім РАУСе сябры АГП былі асуджаныя да вялікіх штрафаў — у прыватнасці, Аляксандра Васілевіч і Ежы Грыгенча аштрафаваныя на 15 базавых велічыняў, Ірына Давідовіч з Іўя — на 10 базавых велічыняў.

Па словах старшыні гарадской арганізацыі АГП Аляксандры Васілевіч, яны маюць намер зараз аспрэчыць папярэднія рашэнні на імя старшыні абласнога суду.



### Магілёў. Пад цэнзурай біяграфія кандыдата

**Змены ў біяграфію кандыдата ў дэпутаты без яго згоды былі ўнесеныя ў перадвыбарчыя плакаты.**

З гэтай нагоды актывіст незалежнага прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Аляксей Паўлоўскі падаў скаргі ў Ямніцкую акруговую выбарчую камісію №35, а таксама ў Магілёўскую гарадскую выбарчую камісію.

«У біяграфіі не пазначылі шэраг месцаў, дзе я працаваў раней, а таксама тое, што я не беспрацоўны, а часова непрацоўны. Таксама з інфармацыйнай улёткі прыбралі, што я з'яўляюся сябрам незалежнага прафсаюза РЭП, выстаўляў сваю кандыдатуру на выбары ў Палату прадстаўнікоў у 2012 годзе, а таксама што я не «сяджу на шыі выбаршчыкаў», а жыву за кошт таго, што вырошчваю і рэалізоўваю сельскагаспадарчую прадукцыю на ўласным зямельным участку плошчай 40 сотак», — кажа Паўлоўскі.

Кандыдат у дэпутаты адзначае, што ягоныя біяграфічныя звесткі зменены наўмысна. Паўлоўскі ў сваёй скарзе таксама просіць перавыдаць плакаты з яго біяграфічнымі звесткамі.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# ААЦ — вораг інтэрнэта

**Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь уключаны ў сусветны спіс ворагаў інтэрнэту ў штогадовай справаздачы міжнароднай журналісцкай арганізацыі «Рэпарцёры без межаў».**

Сёлета спіс ворагаў інтэрнэту ўяўляе сабой пералік арганізацыяў, якія ва ўсім свеце перашкаджаюць свабодзе выказвання ў інтэрнэце.

Беларускі ААЦ з'яўляецца арганізацыяй, чые функцыі выходзяць далёка за межы цэнзуры ў інтэрнэце, шпіянажу за журналістамі і курыравання правайдэраў — сцвярджаюць аўтары справаздачы. Таксама адзначаецца, што Указ № 60 «Аб мерах па ўдасканальванні нацыянальнага сегмента сеціва інтэрнэт» абавязвае правайдараў выкарыстоўваць SORM (сістэму тэхнічных сродкаў для забеспячэння функцый аператыўна-даследчых мерапрыемстваў) для адсочвання інтэрнэт-актыўнасці.

У Расіі падобныя функцыя выконвае ФСБ. Сярод іншых ворагаў інтэрнэту аўтары называюць арганізацыі ў Кітаі, Узбекістане, Туркменістане, Саудаўскай Аравіі і іншых краінах.

Гэтым разам у спіс трапілі і тры арганізацыі, якія дзейнічаюць у дэмакратычных краінах — Агенцтва па нацыянальнай бяспецы (NSA) у ЗША, Цэнтр урадавай сувязі (GCHQ) у Вялікабрытаніі і Цэнтр развіцця тэлекамунікацый (C-DOT) у Індыі.

Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь быў створаны 21 красавіка 2008 года ўказам Лукашэнкі. Эксперты адзначаюць ключавую ролю арганізацыі ў абмежаванні інтэрнэт-свабоды ў Беларусі, ва ўвядзенні і рэалізацыі адпаведных заканадаўчых нормаў (сярод іх і Указ № 60) і функцыянаванні «чорнага спісу» інтэрнэт-рэсурсаў, заблакаваных у дзяржаўных установах Беларусі.

**Паводле Радыё Свабода**

# Родныя Кавалёва звярнуліся да генпракурора

**Любоў Кавалёва — маці Уладзіслава Кавалёва і ягоная сястра Таццяна Казяр накіравалі генпракурору Аляксандру Канюку заяву з патрабаваннем узнавіць расследаванне справы па адкрытых новых абставінах з наступнай рэабілітацыяй.**

Гэтымі новымі абставінамі яны лічаць рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, згодна з якім дзяржава парушыла права на жыццё асуджанага, а таксама шэраг правоў, гарантаваных нацыянальным заканадаўствам і міжнароднымі стандартамі: забарона ўжывання фізічнай сілы, прэзумпцыя невінаватасці, стандарты справядлівага правасуддзя.

Заяўнікі адзначаюць, што выяўленыя парушэнні могуць быць выпраўлены толькі шляхам перагляду крымінальнай справы:

— Гэта адзіная магчымасць на цяперашні час перагледзець справу і рэабілітаваць Уладзіслава, — пагаджаецца са сваякамі праваабаронца Раман Кісляк. — Паколькі з рашэння Камітэта вынікае, што пры разглядзе справы былі дапушчаны шматлікія працэсуальныя парушэнні і парушэнні мінімальных стандартаў справядлівага правасуддзя.

Камітэт вынес рашэнне згодна Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах і Факультатыўнаму пратаколу, які Беларусь падпісала і ратыфікавала.

**spring96.org**

# Дажынкі перафарматуюць

**Улада адмовілася ад чарговай сваёй «мантры» — агульнадзяржаўнага фестывалю «падсумавання вынікаў бітвы за ўраджай», які ладзіўся ў Беларусі з 1996 года.**

Генадзь КЕСНЕР

10 сакавіка падчас пасяджэння з нагоды правядзення штогадовага свята працаўнікоў сяла «Дажынкі» Аляксандр Лукашэнка багата часу ахвяраваў пытанню рэарганізацыі самога свята, паведаміўшы, што ўмовы яго правядзення зменяцца.

Цяпер «Дажынкі» па сканчэнні жніва будуць ладзіцца на месцах, а дзяржаўнае ўшанаванне пераможцаў-змагароў за ўраджай будзе праходзіць на пачатку каляндарнага года ў Палацы Незалежнасці. У раёнах фестывалі будуць арганізаваныя на базе аднаго з аграгарадкоў, якія, па словах Лукашэнкі, такім чынам «за 10–12 гадоў будуць прыведзеныя ў поўны парадак». «То бок, мы нададзім новае дыханне аграгарадкам і зможам завяршыць тую праграму, якую мы перад сабою паставілі», — сказаў правадыр. На абласным жа ўзроўні «Дажынкі» будуць ладзіцца ў раённых цэнтрах, за выключэннем гарадоў абласнога падпарадкавання і тых, дзе фестываль ужо праводзіўся раней.

«Дажынкі» пад кіраўніцтвам Лукашэнкі вызначаліся тым, што ўлада называла канкрэтнае месца, дзе будзе праходзіць фестываль, а потым пачынала шчодра яго фінансаваць. «Дажынкі» 2014 года мусілі прайсці ў Гарадку Віцебскай вобласці.

Васямнаццацігадовы досвед правядзення «Дажынак» дазваляе меркаваць, што ў многіх выпадках падрыхтоўка да іх нагадвае стварэнне «Пацёмкінскіх вёсак». Як правіла, у парадак прыводзяцца цэнтры гарадоў, старыя ці паўразбураныя будынiны камуфлююцца плотамі, фарбуюцца толькі фасады будынкаў. Хаця, трэба аддаць належнае, ёсць выпадкі, калі да «Дажынак» будуюцца новыя дарогі, транспартныя развязкі, нават вакзалы.

«Фасады пафарбаваныя, а ў дварах смецце. Ёсць прыклады, калі ўжо на наступны дзень пасля фестывалю абрыналіся канструкцыі і правальвалася плітка. Апроч таго, былі і эстэтычныя заўвагі, што гэта свайго кшталту «савок» у вульгарным ракурсе пры наяўнасці мноства мастацкай безгустоўнасці ў аздабленні, рэпертуары і гэтак далей. Часта гэта ўсё ператваралася ў звычайнае гульбішча з ужываннем вялікай колькасці алкаголю», — адзначае палітолаг Аляксандр Класкоўскі.

Кіраўнік Аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка лічыць, што скончыўся апафеозны перыяд, але справа тут не ў грошах.

«Хачу вас запытаць: колькі каштуе карнавал у Рыа-дэ-Жанэйра? А той карнавал бюджэту можа не каштаваць ні капейкі. Таму што ўсё гэта — ініцыятыва людзей. І прывяду яшчэ прыклад. Калі пачалася перабудова, то на самым яе пачатку ў Кіеве тамтэйшыя ўлады, якія беглі паперад планеты ўсёй, абвясцілі, што летам у нядзелю, умоўна кажучы, 10 ліпеня ў Кіеве будзе карнавал. Народ выходзіць на вуліцы ў азначаны дзень, які абвешчаны як карнавальны, груваздзіцца на тратуарах і чакае, што ж будзе адбывацца. А нічога не адбываецца, нікога няма. Улады пачынаюць тлумачыць: шаноўныя людзі, карнавал — гэта калі сам рыхтуеш строі, касцюмы, нейкія прыбамбасы, сам выходзіш на вуліцы, танчыш, смяешся. То бок, гэта свята, якое кожны рыхтуе сам, ніхто адмыслова яго не арганізуе. Вось гэта феномен кіеўскага карнавалу. Таму калі «Дажынкі» сталі такімі заарганізаванымі, яны ператварыліся ў чыноўніцкае гульбішча, і 9 мільёнаў 300 тысяч чалавек з'яўляліся гледачамі гэтага чужога свята. «Дажынкі» можна рабіць бясплатна, на энтузіязме людзей, без усялякага дзяржаўнага кіравання і ўмяшальніцтва», — упэўнены эканаміст Леанід Заіка.

І ўсё ж нешта падказвае, што і ў грошах справа.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як рыхтаваць прафесіяналаў?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Украіна? Крым? Вайна? Ды што вы кажаце! На гэтым тыдні тэмпература ў Мінску даходзіла да плюс 12 градусаў — сам бачыў. А гэта значыць, што трэба не ў тэлевізар глядзець і думаць, хто там мае рацыю, а рыхтаваць насенне — хутка будзем бульбу саджаць. Паміраць збірайся, як кажуць, а жыта сей.**




Канешне, Украіна, Крым, вайна — усё гэта і жудасна, і прыцягальна адначасова. Аднак, калі ў гэты час утаропіцца ў тэлевізар ды радзіць на кухні, як самазваны геапалітык, то можна і ўсё прафукаць. Вунь, беларускі правадыр: вайна вайною, а пра сяло падумаў. Лукашэнка сваім указам ад 10 сакавіка працягнуў на год ільготныя ўмовы рэалізацыі выробленых у Беларусі транспартных сродкаў на ўмовах лізінгу.

Памятаеце, як у мінулым годзе ён загадваў хоць тушкай, хоць чым разгружаць склады прадпрыемстваў, трактары прадаваць па 25% ад сабекошту з вяртаннем грошай «потым»? Склады не разгрузіліся, і гэтая палітыка працягнецца. Льготныя ўмовы лізінгу — яшчэ на год.

А што значыць яшчэ на год? Гэта значыць, што проста так трактары не прадаюцца. А значыць, грошы на завод не ідуць. А значыць, заробак людзям не плацяць, хоць ён і не такі вялікі. У Беларусі мінімальная заработная плата за люты бягучага года не індэксуецца, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за люты да студзеня 2014 года не перавысіў пяціпрацэнтны парог, паведамляе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Такім чынам, месячная мінімальная заработная плата па-ранейшаму складае 1 мільён 660 тысяч беларускіх рублёў, гадзінная мінімальная зарплата — 9 890 рублёў.

А што рабіць, калі грошы за трактар не атрымаў, а заробак выплачваць трэба? Не застаецца анічога, акрамя як несці адказнасць. У Беларусі плануецца павялічыць тэрмін даўнасці па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях за нявыплату заработнай платы з двух месяцаў да аднаго года. Адпаведныя прапановы і змены ў адміністрацыйны кодэкс — ужо ў Палаце прадстаўнікоў.

Распрацоўка законапраекта выкліканая ўзмацненнем жорсткасці кантролю і павышэннем персанальнай адказнасці кіраўнікоў арганізацый за выкананнем тэрмінаў выплаты заработнай платы і своечасовым прыняццем мер рэагавання, гаворыцца ў суправаджальным каментары да праекта.

Але самыя вялікія навацыі чакаюць будучых выпускнікоў школаў і абітурыентаў. Іх зноў чакаюць змены правілаў прыёму ў ВНУ. Аляксандр Лукашэнка даручыў дапрацаваць указ аб прыняцці новай рэдакцыі правіл прыёму ў ВНУ і ССНУ з тым, каб яны ўступілі ў сілу ўжо ў сакавіку.

І вось гэтыя змены — вельмі красамоўныя, і сведчаць пра поўны правал ранейшай палітыкі рэформаў як у навучанні, так і ўвогуле па краіне.

Найперш, будзе адменены раздзельны конкурс у ВНУ для выпускнікоў сельскіх і гарадскіх школ. То бок, аніякіх льготаў для «сельскіх хлопцаў і дзяўчат» зараз не будзе. Канешне, іх і не павінна было быць, калі ўжо ў нас роўны ўзровень навучання, але наш правадыр усё не мог забыцца на сваё басаногае дзяцінства.

У новай рэдакцыі правіл абітурыентам плануецца даць права выбару здачы ўступных выпрабаванняў у ВНУ альбо прадастаўленне сертыфікатаў цэнтралізаванага тэставання пры паступленні на сельскагаспадарчыя спецыяльнасці. Таксама прапануецца значна павялічыць мэтавы набор абітурыентаў: абітурыентам незалежна ад месца іх пражывання будзе прадастаўлена магчымасць удзелу ў конкурсе па мэтавай падрыхтоўцы пры адначасовым павелічэнні мэтавага прыёму абітурыентаў па сельскагаспадарчых спецыяльнасцях да 60% ад кантрольных лічбаў прыёму, па іншых спецыяльнасцях — да 40%, ва ўстановах сярэдняй спецыяльнай адукацыі па сельскагаспадарчых, медыцынскіх спецыяльнасцях да 60%, па іншых спецыяльнасцях — да 30%.

Што гэта значыць? Гэта значыць, што кіраўнік дзяржавы надзейна стымулюе, па-першае, павышэнне колькасці адукаваных сельскіх спецыялістаў. А па-другое, імкнецца, каб гэтыя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы пасля заканчэння ВНУ вярнуліся «на зямлю». Там працаваць ужо амаль няма каму — таму і «мэтавая падрыхтоўка», і скасаванне ільготаў для паступаючых з сяла.

Прапануецца даць абітурыентам — пераможцам абласнога, Мінскага гарадскога этапу рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах і асобам, узнагароджаным залатым, срэбным медалём або якія маюць дыплом з адзнакай — права залічэння без уступных іспытаў пры паступленні на педагагічныя спецыяльнасці пры наяўнасці рэкамендацый педагагічных саветаў устаноў, якія яны скончылі. То бок, хранічна не хапае педагогаў, і мы вяртаемся да савецкай практыкі «з медалём — без іспытаў». Праўда, пакуль што ў педагагічных спецыяльнасцях.

Будзе ўведзена норма, якая ўстанаўлівае магчымасць абітурыентам, якія не прайшлі па конкурсе, паступаць на іншую спецыяльнасць у тым жа або іншым ВНУ на тыя бюджэтныя месцы, што засталіся вакантнымі. Добрая практыка: не прайшоў на прэстыжны факультэт, ідзі ў той жа ВНУ на менш прэстыжны — у залежнасці ад колькасці набраных балаў. З аднаго боку, можа, і здолееш перавесціся туды, куды марыў, але з іншага — ад войска падчас вучобы гарантавана «адкосіш».

І галоўнае — будзе адменена прафесійна-псіхалагічнае сумоўе для абітурыентаў, якія паступаюць на спецыяльнасці дзяржкіравання, права і журналістыкі.

Нагадаем, што такое сумоўе было ўведзенае тады, калі была ўведзеная дзяржаўная ідэалогія: каб не прапусціць, напрыклад, у журналістыку «нячэсных». А што атрымалася? Прапагандыстаў наштампавалі, а працаваць — няма каму. Таму зараз ані ідэолагі, ані прапагандысты не патрэбныя — патрэбныя прафесіяналы. А ідэолагі загнуліся разам з дзяржідэалогіяй.

І самае цікавае: Аляксандр Рыгоравіч здзейсніў мару БРСМ і прысвоіў беларускай АЭС статус Усебеларускай маладзёжнай будоўлі. Гэта значыць, што ў нас настолькі нестае прафесіяналаў будаўнічых спецыяльнасцяў, што нават АЭС будаваць няма каму. Усё звалілі на студэнтыкаў.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Сяргей Міхалок



**Пасля таго, як канцэрт Сяргея Міхалка і гурта «Ляпіс Трубяцкі» быў забаронены ў расійскім Пскове па ініцыятыве прыхільнікаў КПРФ, «Ляпісы» падзякавалі пскоўскім камуністам за рэкламу.**

Музыкі сцвярджаюць, што з-за забароны канцэрту колькасць прыхільнікаў у іх вырасла. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні, размешчаным у афіцыйным акаўнце «Ляпіса Трубяцкога» ў сацыяльнай сетцы «Фэйсбук».

«Анарха-сіндыкат Lyapis Crew гатовы прыняць у свае шэрагі пскоўскі абкам КПРФ у поўным складзе — скажам, у рэкламна-ідэалагічны аддзел. Паколькі пасля ўсіх гэтых пскоўскіх заяў, байкотаў і забаронаў праслухоўванне альбома «Матрошка» і прагляд відэа з гэтага альбома ўзраслі ў разы! Дзякуй, бацькі, за салідарнасць і брацкую дапамогу! Будзем вінны», — гаворыцца ў паведамленні.

Раней Пскоўскае аддзяленне КПРФ заклікала адмяніць або байкатаваць канцэрт беларускага гурта. Па словах камуністаў, у новым альбоме «Ляпісаў» у самым «непрывабным выглядзе» прадстаўлена Расія і лідары СССР. Таксама ў КПРФ узгадалі выступ музыкаў у Кіеве на Майдане, дзе лідар гурта «Ляпіс Трубяцкі» Сяргей Міхалок «падтрымаў дзяржпераварот». Пасля стала вядома, што канцэрт гурта ў Пскове забаронены.

## Ігар Шуневіч



**Кіраўнік Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч паведаміў аб правядзенні ў гэтым годзе амністыі.**

Паводле ягоных падлікаў, на волю на падставе амністыі змогуць выйсці каля 2 000 зняволеных.

«Па даручэнні кіраўніка дзяржавы разам з іншымі дзяржаўнымі органамі МУС прымае ўдзел у распрацоўцы адпаведнага законапраекта», — заявіў Шуневіч у ходзе «прамой лініі» ў газеце «Беларусь сегодня». Мяркуецца, што амністыя будзе прымеркаваная да 3 ліпеня.

Таксама Ігар Шуневіч расказаў пра тое, што МУС прапанавала скараціць 2 папраўчыя ўстановы закрытага тыпу, у тым ліку адну калонію для непаўналетніх. Ён падкрэсліў, што рэфармаванне органаў і ўстаноў крымінальна-выканаўчай сістэмы з амністыяй не звязана. «Справа ў тым, што ў апошнія гады асуджаных да пазбаўлення волі становіцца менш. Таму, прааналізаваўшы аператыўнае становішча, мы і прапанавалі скараціць дзве папраўчых установы закрытага тыпу, у тым ліку адну калонію для непаўналетніх. Адпаведнае рашэнне ўжо прынятае», — паведаміў Шуневіч.

Зараз трэба чакаць, ці закране амністыя палітвязняў.

## Вікторыя Азаранка

**Некаторыя СМІ паведамляюць, што славутая беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка і яе бойфрэнд, вядомы музыкант Рэдфу, 11 сакавіка таемна пажаніліся, прычым цырымонія прайшла ў вельмі сакрэтнай інтымнай абстаноўцы ў прысутнасці некалькіх сяброў закаханых.**



Таксама паведамляецца пра нейкае папяровае пасведчанне, якое пацвярджае факт куплі заручальнага пярсцёнка музыкантам Рэдфу на мінулым тыдні. Пара была заўважаная ў некалькіх найбуйнейшых ювелірных крамах.

У бойфрэнда Вікторыі плануецца выступленне з канцэртам у Індыі 22 і 23 сакавіка. Паводле дадзеных індыйскіх СМІ, вяселле Рэдфу і Азаранкі магло б адбыцца ў горадзе Джайпур.

Азаранка і Рэдфу пазнаёміліся ў 2012 годзе на US Open, і з тых часоў Рэдфу часта бачаць на трыбунах, дзе ён горача перажывае за сваю сяброўку. У пачатку гэтага года Вікторыя Азаранка заяўляла СМІ, што пра свае заручыны або вяселле яна раскажа журналістам толькі тады, калі на яе пальцы з'явіцца заручальны пярсцёнак.

# Канстытуцыі — 20 гадоў

Сяргей ПУЛЬША




**Канстытуцыя 1994 года мела пэўныя хібы. Зразумела, адразу ідэальным такі дакумент зрабіць немагчыма. А якія хібы ў сённяшняга Асноўнага закону краіны? Пра гэта мы распыталі тых, хто шчыльна працаваў над дакументам: доктара юрыдычных навук, былога сябра Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова і падпісанта першай Канстытуцыі, былога спікера Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мечыслава Грыба.**

## Працавалі доўга і старанна



*Мечыслаў Грыб:*

— Калі была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі, з'явілася патрэба ў новай Канстытуцыі. Адразу адзначу, што над Канстытуцыяй працавалі дзве рабочыя групы: пад кіраўніцтвам намесніка старшыні ВС Васіля Шаладонава і пад кіраўніцтвам Віктара Ганчара. Яны стварылі два праекты Канстытуцыі, які мы аб'ядналі ў адзіны дакумент. За аснову быў прыняты праект Шаладонава, а потым да ягонай групы далучылася група Ганчара.

Канстытуцыю прымаў Вярхоўны Савет 12 скліканння. Што гэта быў за орган? У той час ён складаўся з 360 дэпутатаў, 310 з якіх абіраліся па сваіх акругах, і яшчэ 50 — грамадскімі аб'яднаннямі: ветэранаў вайны і працы, глухіх, сляпых, інвалідаў і гэтак далей. То бок, іх выбіралі не ўсе выбаршчыкі, а яны былі дэпутатамі па выніках сходаў вышэйшых органаў аб'яднанняў. Таму атрымлівалася, што 87% дэпутатаў складалі сябры КПБ — КПСС. Да таго ж, мы кіраваліся апошнімі Канстытуцыямі БССР і СССР.



*Міхаіл Пастухоў:*

— Я быў у камісіі Ганчара. Калі нас аб'ядналі з камісіяй Шаладонава, там з нашай камісіі людзей амаль не засталося. У камісіі Шаладонава былі, у асноўным, людзі, якія з'яўляліся штатнымі супрацоўнікамі дзяржустановаў, напрыклад, юрфака БДУ. Гэта азначала, што яны маглі траціць працоўны час на распрацоўку і абмеркаванне Канстытуцыі. Мы ж былі «аматарамі», энтузіястамі, якія вымушаны былі абмяркоўваць Канстытуцыю па-за асноўнай працай.

У выніку гэтага аб'яднання шмат чаго з нашых напрацовак у канчатковы праект Канстытуцыі не ўвайшло. Прыкладам, я да апошняга настойваў на тым, каб уключыць у Канстытуцыю палажэнне аб упаўнаважаным па правах чалавека, бо такі ўпаўнаважаны мог бы выступіць рэальным гарантам абароны правоў і свабодаў чалавека. У выніковым праекце Канстытуцыі мы пабачылі толькі сляды таго, што мы прапанавалі. Канстытуцыйны суд, напрыклад, у нашым варыянце належаў да судовай сістэмы, а ў канчатковым — стаў органам нагляду і кантролю.

## Хто прыдумаў прэзідэнта?

*Міхаіл Пастухоў:*

— У нашым варыянце Канстытуцыі ўвогуле не было раздзела «Прэзідэнт». Ва ўсіх першапачатковых варыянтах Канстытуцыі, калі я не памыляюся, не было згадак пра інстытут прэзідэнцкай улады. Гэты раздзел з'явіўся тады, калі праект Канстытуцыі ўжо прайшоў шэраг абмеркаванняў. Гэта было некалькі нечакана. Шчыра кажучы, палажэнне пра прэзідэнта было парушэннем агульнага падыходу да распрацоўкі Канстытуцыі на падмурку Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі. У Дэкларацыі, як вядома, ніякай згадкі пра прэзідэнцтва не было.

*Мечыслаў Грыб:*

— Канешне, наконт пасады прэзідэнта спрэчкі былі. Хтосьці быў за такую пасаду, хтосьці супраць. Але на той час усе краіны, якія былі вакол нас, ужо «апрэзідэнціліся», а мы заставаліся недзе ўбаку. Гэта таксама было аргументам на карысць увядзення прэзідэнцкай пасады. І мы вырашылі зрабіць «парламенцка-прэзідэнцкую рэспубліку».

Што датычна Канстытуцыі, то тут трэба заўважыць яшчэ адну рэч: усё вывучалася, усё кансультавалася, усё рабілася адкрыта. Кожны артыкул некалькі разоў перапрацоўваўся, і, калі праект Канстытуцыі набыў нармальную форму, ён быў накіраваны для экспертызы ў Англію, Германію, Францыю, ЗША, і ў Венецыянскую камісію (Венецыянская камісія, або Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права — галоўны экспертны орган у канстытуцыйным ды заканадаўчым праве пры Савеце Еўропы — НЧ) для атрымання меркаванняў незалежных экспертаў. І наш праект атрымаў там вялікую станоўчую адзнаку.

Зазначу, што праект друкаваўся ў «Народнай газеце». Мы атрымалі больш тысячы прапаноў і заўваг: і патрэбных, і не вельмі. То бок, праект прайшоў шырокае грамадскае абмеркаванне.

## Закон якога дзеяння?

*Мечыслаў Грыб:*

— Тое, што Канстытуцыя не мае наўпроставага дзеяння — гэта не хіба Канстытуцыі, гэта хіба ўлады, якая Канстытуцыю не выконвае. Канстытуцыя якраз і павінна быць дакументам наўпроставага дзеяння, у ёй прапісана, што яна з'яўляецца Асноўным законам Рэспублікі Беларусь, і ўсе астатнія законныя і падзаконныя акты павінны ёй адпавядаць. Калі яны не адпавядаюць — яны не павінны дзейнічаць на тэрыторыі нашай краіны. А калі гэта не выконваецца — гэта пытанне да ўлады, да Канстытуцыйнага суда і да іншых афіцыйных органаў.

*Міхаіл Пастухоў:*

— У тэксце Канстытуцыі, канешне, не было і няма ўказання на наўпроставае дзеянне Канстытуцыі. Але як юрыст я хачу зазначыць, што гэтага і не трэба. Канстытуцыя — асноўны, але ж закон. І ўсе ягоныя нормы, пачынаючы з прэамбулы, і заканчваючы заключным Законам аб парадку ўступлення ў дзеянне Канстытуцыі ад 15 сакавіка 1994 года, павінны быць дзейсныя. Ніякае заканадаўства не павінна супярэчыць Канстытуцыі, абмяжоўваць яе палажэнні, і самае галоўнае, — абмяжоўваць па-за усталяванымі нормамі правы і свабоды грамадзянаў, замацаваныя ў Канстытуцыі.

## Змены ці новая Канстытуцыя?

**Чаму Аляксандру Лукашэнку на рэферэндуме 1996 года адносна лёгка ўдалося змяніць Асноўны закон?**

*Мечыслаў Грыб:*

— Канстытуцыя 1994 года давала прэзідэнту краіны права заканадаўчай ініцыятывы. Ён, як кіраўнік дзяржавы, меў і мае права ўнесці на разгляд прапановы аб унясенні зменаў у Канстытуцыю. І калі ён унёс прапановы па змене Канстытуцыі ў 1996 годзе, каб надаць ягоным указам заканадаўчую моц, — трэба было парламенту прымаць прапановы, ствараць камісію, разглядаць, дзейнічаць у адпаведнасці з законам. Але тыя прапановы для тагачасных дэпутатаў здаваліся настолькі дзікімі і неправамоцнымі, што іх нават адмаўляліся разглядаць. Бо ў Канстытуцыі было запісана, што адзіным і вярхоўным органам заканадаўчай улады з'яўляецца Вярхоўны Савет. Зразумела, заканадаўчай уладай дзяліцца ніхто не збіраўся, таму што калі ёсць два цэнтры, якія выдаюць законы, — усё вельмі дрэнна атрымліваецца.

Што ж тычыцца рэферэндуму 1996 года, то ніякіх там дзеянняў у адпаведнасці з Канстытуцыяй няма. Узгадайце тыя часы — гвалтоўная змена старшыні Цэнтрвыбаркама чаго вартая! У парушэнне ўсіх законаў, з выкарыстаннем сілавых структураў Віктара Ганчара выгналі з ЦВК, а старшынёй прызначылі Лідзію Ярмошыну. Прэзідэнт узяў на сабе функцыі Вярхоўнага Савета — хаця б па прызначэнні рэферэндуму. Карацей, дзеянні прэзідэнта будаваліся не на падставе Канстытуцыі і законаў Беларусі. Таму я сёння згодны з тымі, хто кажа, што гэта быў антыканстытуцыйны пераварот.

*Міхаіл Пастухоў:*

— Я перакананы, што ніводзін з рэферэндумаў, 1995, 1996 ці 2004 гадоў не мог быць праведзены ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года ці па дзейнаму тады заканадаўству аб рэферэндуме. Гэта тычыцца і рэферэндуму 1995 года, таму што ў тагачасным законе аб рэферэндуме было запісана, што не дапускаецца аніякі замах на асновы суверэнітэту Беларусі і, значыць, на нацыянальна-гістарычныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

Што тычыцца рэферэндуму 1996 года, то ў Канстытуцыі 1994 года, у артыкуле 149, гаварылася пра магчымасць на рэферэндуме ўнясення зменаў і дапаўненняў у Канстытуцыю. Ці былі пытанні рэферэндуму дапаўненнямі ў Канстытуцыю альбо новая рэдакцыя Канстытуцыі — гэта пакінулі на разгляд парламента, ініцыятараў рэферэндуму, Канстытуцыйнага суда. Але адзначу, як фармулявалася пытанне на рэферэндуме адносна Канстытуцыі: «Ці прымаеце вы змены і дапаўненні ў Канстытуцыю 1994 года», і потым, у дужках — «новую рэдакцыю Канстытуцыі». То бок размова наўпрост ішла аб новым дакуменце, і ніхто з ініцыятараў рэферэндуму гэтага нават не хаваў. А прыняцце новай Канстытуцыі Асноўным законам 1994 года не дазвалялася.

Зараз і аналіз дакумента, і час паказалі, што дапаўненні 1996 года — гэта сапраўды новая Канстытуцыя.

## Чаму канстытуцыя не выконваецца?

*Мечыслаў Грыб:*

— Гэта ў нас традыцыйна. Не выконвалася Канстытуцыя ў савецкія часы, не выконваецца зараз. Сёння Канстытуцыя абвяшчае адны правы і магчымасці, жыццё ідзе іншым шляхам. Нават тое, што ўносілася зменамі, да сёння не працуе. Як мне памятаецца, Палата прадстаўнікоў павінна была вылучыць накірункі і пытанні, у якіх прэзідэнт можа выдаваць свае дэкрэты. Гэтыя накірункі і да сёння не акрэсленыя: Лукашэнка выдае дэкрэты па любых пытаннях. Не ўсе дэкрэты і ўказы зацвярджаюцца ў належны час, але пры гэтым пачынаюць дзейнічаць.

*Міхаіл Пастухоў:*

— Новая рэдакцыя Канстытуцыі была сродкам зацвярджэння прэзідэнцкай улады. Выканаўшы сваю ролю, яна страціла сваё значэнне. Законы для гэтай ўлады сёння патрэбныя для адной мэты, — як казаў некалі Беніта Мусаліні: «Для сяброў — усё, для астатніх — закон». Таму рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы ў грамадзян Беларусі не атрымліваецца, і канстытуцыйныя гарантыі ў большасці не працуюць.

# Не тузайце Украіну, і ўсё будзе добра!

Сяргей ПУЛЬША

**Ва Украіне па вуліцах не ходзяць бандэраўцы з аўтаматамі. Прынамсі, у Чарнігаве, дзе пабывала група беларускіх журналістаў. Увогуле, пра неспакойныя часы нагадваюць хіба што міліцэйскія патрулі, якіх, падаецца, крыху паболела, ды больш уважны кантроль на мяжы. Але і Чарнігаў, канешне, — не Крым.**

Беларускія журналісты сустрэліся са сваімі калегамі, каб пагутарыць пра ўкраінскую сітуацыю ды высветліць тыя пытанні, якія нам не даюць спакою. На пытанні беларусаў адказвалі прэзідэнт Акадэміі ўкраінскай прэсы Валер Іваноў ды старэйшы дарадца па пытаннях медыя «Інтэрньюз Нэтворк» Алег Хамянок.

Першае пытанне, падаецца, хвалюе ўсіх:

***— Што будзе з Крымам?***




**Алег Хамянок, старэйшы дарадца па пытаннях медыя «Інтэрньюз Нэтворк»**

***Алег Хамянок:*** Разважаць пра тое, што Крым некаму адыдзе, мы можам з двух пунктаў погляду: з пункту погляду агульначалавечага, і з пункту погляду заканадаўства і міждзяржаўнага права. З пункту гледжання агульнага заканадаўства крымскі рэферэндум па ўваходжанні ў склад Расіі з'яўляецца нелегітымным. Ва Украіне ёсць закон пра рэферэндум, які не прадугледжвае рашэння аб аддзяленні Крыма на мясцовым рэферэндуме — гэта павінна вырашацца на агульнанацыянальным рэферэндуме.

З агульначалавечага пункту погляду, трэба глядзець сацыялогію. Існуе вельмі шмат людзей, якіх не задавальняе тая палітыка ўладаў, якая праводзілася на працягу апошніх гадоў у Крыме. Але тое зусім не азначае, што гэтыя людзі гатовыя да таго, каб аддзяліць тэрыторыю ад Украіны. Акрамя таго, трэба ўсведамляць тыя міжнародныя наступствы, калі гэта пройдзе сілавым шляхам — з удзелам Расіі альбо без такога ўдзелу. Цалкам відавочна, што прававых падставаў



**Валер Іваноў, прэзідэнт Акадэміі ўкраінскай прэсы**

для прызнання такога кроку міжнароднай супольнасцю не існуе: таксама, як не існуе гэтага з Абхазіяй і Паўднёвай Асеціяй.

Гэта азначае, што людзі, якія жывуць у Крыме, не змогуць нікуды выехаць, акрамя Расіі. Дзе эканоміка не будзе атрымліваць аніякіх інвестыцыяў, акрамя расійскіх. Для таго, каб зразумець, як будуць жыць людзі, трэба з'ездзіць у Абхазію.

Я лічу, што гэта проста гіпатэтычная сітуацыя, і сцэнар пра аддзяленне Крыму і далучэнне да Расіі я не схільны разглядаць увогуле. Гэта сцэнар, які можа быць у галаве вар'ята.

***Валер Іваноў:*** Зараз праблема іншая. Я больш і больш бачу ў інтэрнэце ацэнак. Кажуць: «Крым мы ўжо згубілі, зараз за Перакопам трэба змагацца». Як згубілі? Гэта мы што, як сумку альбо гаманец згубілі? Гэта вялікая тэрыторыя, звязаная з Украінай. Усе мы былі звязаныя з адным, але 20 гадоў Крым быў звязаны з Украінай. Я не веру ў тое, што ад нас адколюць і Крым, і Данбас.

Можа, я не маю рацыю, але ў прынцыпе я лічу, што ані Крым, ані нейкія іншыя тэрыторыі Расіі, па вялікім рахунку, не патрэбныя. У гэтыя тэрыторыі трэба ўкладваць грошы. Еўрасаюз гэтыя грошы мае, Амерыка мае гэтыя грошы, — бо ім у сябе няма куды ўкладаць. Расіі — ёй сваё падняць праблемна.

Але гэта пайшло і на карысць. Да расійскага ўмяшальніцтва было праблемай, як заспакоіць «правых» баевікоў, у прыватнасці, «Правы сектар». Гэтыя людзі былі ядром сілавога супрацьстаяння Януковічу, і існуюць вялікія сумневы, што Януковіча ўдалося б зрынуць, каб гэтыя людзі не ваявалі супраць «Беркута». А зараз як іх спыніць?

***— Ці здолее новы ўрад выцягнуць краіну з крызісу?***

***Валер Іваноў:*** Калі даць на сённяшнім этапе нашай уладзе працаваць — усё будзе супер. Таму што гэта людзі, якія зараз разумеюць — ім не дадуць красці. Але ўжо пайшлі незразумелыя для мяне працэсы — два алігархі прызначаныя губернатарамі. Як можна шчупака кідаць у рэчку? Нам кажуць, што гэта было зроблена для таго, каб захаваць адзінства, але мяне алігархі як гаранты адзінства зусім не натхняюць. Алігархі — гэта не тыя ідэалісты, якія былі на Майдане, хто дасць ім больш грошай, туды яны і пойдуць.

Нашы палітыкі ад пачатку не павінны былі ісці на нейкія папуліцкія рашэнні. Канешне, на Майдане ролю сыгралі «правыя», але... Хай расійскі флот застанецца — чорт з ім, з гэтым флотам. Хай бы пакуль заставаўся той закон аб мовах...

З іншага боку, вінаваціць нашу новую ўладу таксама нельга. Ну хто мог чакаць, што ўсё так раптоўна здарыцца? Мы жывем не ў XIX стагоддзі, а ў 2014 годзе, і чакаць у 2014 годзе, што на тэрыторыю суверэннай дзяржавы высаджваюцца чужыя войскі і захопліваюць значную частку тэрыторыі — хто мог прадбачыць?

Канешне, першыя рашэнні ўлады ў сферы моўнай палітыкі згулялі негатыўную ролю. Канешне, моўнае пытанне вельмі важнае, мова аб'ядноўвае краіну, але толькі ў нармальнай у эканамічным плане краіне. Украіна — не нармальная ў эканамічным плане краіна. Мы зруйнаваныя нашымі алігархамі. Краіна раскрадзеная, абрабаваная, з надзвычай высокім узроўнем карупцыі.

Галоўнае зараз — вырашыць пытанне з Пуціным, знайсці нейкае «статус-кво», і другое — даць магчымасць новай уладзе папрацаваць. Сапраўды, гэтая ўлада мае патэнцыял, яна ж не будзе працаваць толькі на Заходнюю Украіну. Усе ў гэтым упэўненыя — яна будзе працаваць на ўсю краіну. Але дайце ёй спакойна папрацаваць хаця б традыцыйныя сто дзён. Не тузайце яе хаця б мінімальна — і ўсё будзе добра.

**Нашы палітыкі ад пачатку не павінны былі ісці на нейкія папуліцкія рашэнні. Канешне, на Майдане ролю сыгралі «правыя», але... Хай расійскі флот застанецца — чорт з ім, з гэтым флотам. Хай бы пакуль заставаўся той закон аб мовах...**

***— Як хутка ўвойдзе Украіна ў Еўрасаюз?***

***Валер Іваноў:*** Наўрад ці мы хутка ўвойдзем у ЕС — зараз мы проста не падыходзім па эканамічных паказчыках. Лягчэй было б уступіць у ЕС за часамі Юшчанкі, але гэты шанец быў «прафуканы». Тагачасная ўлада займалася якраз другаснымі пытаннямі, кшталту моўнага, а не першачарговымі, эканамічнымі. І зараз на працягу бліжэйшых 10–15 гадоў нам уступленне ў ЕС не свеціць — такое маё меркаванне.

**Больш падрабязна чытайце на нашым сайце novychas.info**

## КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Крым і два Аксёнавы



**Раман Васіля Аксёнава «Выспа Крым» у свой час меў шалёную папулярнасць. Спачатку ён выйшаў у самвыдаце, яго тэкст агучвалі заходнія станцыі. І толькі дзесьці напрыканцы 1980-х гадоў «Выспу Крым» надрукаваў часопіс «Юнацтва».**

Сюжэт рамана аўтар пабудаваў на фантастычным дапушчэнні, што арміі Урангеля ўдалося адбіцца ад бальшавікоў. Выпадковы стрэл з карабельнай гарматы, зроблены англійскім лейтэнантам Бейлі-Лендам, спыніў іх наступ на Крым.

Усё астатняе ў рамане выглядае навуковай рэстаўрацыяй гісторыі, якая магла б адбыцца. За паўстагоддзя ў Крыме была пабудавана дэмакратычная квітнеючая дзяржава, якая мела ўсе перавагі над Саветамі. Але аднойчы яна сур'ёзна захварэла: сярод крымчан сталі папулярнымі ідэі партыі САЛ (Саюза агульнага лёсу) аб аб'яднанні, поўным зліцці Крыма з СССР.

У Аксёнава гэта ідэя рэалізуецца з выкарыстаннем правакацый «ваўканосцаў» (эўфемізм — чарнасоценцы). І вось аднойчы, як тыя, хто быў супраць, так і тыя, хто рыхтаваўся да «зліцця», былі пастаўлены перад фактам: Савецкі ўрад «ідучы насустрач» заяве САЛа, пачынае ваенную аперацыю па вызваленні крымчан ад іх уласнай дзяржавы. Маўляў, мы вам дамо іншую і лепшую.

Ну адзін да аднаго, што адбываецца сёння. Крымскі сцэнар Аксёнава ўрэшце прыняты да пастаноўкі, але не ў жанры фэнтэзі, а суровай пуцінскай рэал-палітык. Расійскія дэсантнікі ўжо грукаюць у дзверы.

Дзея першая ўжо пачалася. Як лакальная аперацыя па абароне расійскіх грамадзян, што жывуць у Крыме. Пасля ўзялі пад абарону тых, хто прынцыпова не паважае ўкраінскую мову. «Моўныя» прэтэнзіі пашыраюцца і перарастаюць у этнаграфічныя і геапалітычныя. Далей болей. Дэсантнікі абяцаюць прыняць пад свой патранат не толькі рускіх, але і ўкраінцаў, якім пагражаюць украінскія нацыяналісты.

Так, па даўняй звычцы, інтэрнацыяналісты становяцца шавіністамі. Роля вядучых жахлівага спектакля належыць Пуціну і Мядзведзеву, якія на пару і па чарзе зачышчалі Каўказ ад нацыяналістаў, гвалцілі Грузію праз анексію Паўднёвай Асеціі і Абхазіі.




Тое ж рыхтуецца і ў Крыме. Ці выпадкова, ці карты так ляглі, але новаспечаным прарасійскім крымскім прэм'ерам стаўся чалавек з прозвішчам Аксёнаў — Сяргей Аксёнаў. Зразумела, нічым не падобны на пісьменніка Васіля Аксёнава.

Рэальны Сяргей Аксёнаў, абраны кімсьці на ролю галоўнага героя рэальнай крымскай драмы, кіруецца толькі рэальнымі выгодамі. Хаця таксама наўрад ці ўяўляе, чым для яго можа скончыцца гульня. Сяргей Аксёнаў скончыў ваенную вучэльню, але ў арміі не служыў, пайшоў у «каапэратары». Стаў «бізнэсмэнам», потым кінуўся ў палітыку, узначаліў партыю «Рускае адзінства», якая набрала блізу 3 працэнтаў галасоў на выбарах у крымскі парламент. Ну і яшчэ ён, як паведамляюць СМІ, спасылаючыся на дадзеныя міліцыі, у крымінальным свеце вядомы пад прозвішчам Гоблін.

Бачна, што персона шматзначная, як з пункту гледжання маралі, так і палітыкі. Вось такі лідар. Вы чакалі? Не важна, атрымлівайце!

Што далей? Звычайны расійскі сацыяльна-палітычны кругазварот. Праваднікі, масы, героі народа і ворагі народа, рэпрэсіі і рэабілітацыі. Заўсёдныя акалічнасці, якія замяняюць паўсядзённай працы і пераможнаму маршу ў лепшую будучыню.

Як зараз у Крыме. Адны імкнуцца стварыць справядлівы Крым для сваіх, іншыя ахвотна дапамагаюць у надзеі, што і ім з панскага стала якія дробязі зваляцца. І ўсе памыляюцца, бо тая армія, якая прыйшла ўжо ў Крым, прывяла з сабой і сваіх алігархаў.

Гэта ў выпадку, калі рэалізуецца пуцінскі сцэнар.

# Дваццаць дзявяты пайшоў

Алег НОВІКАЎ

**У Індыі створаны новы 29-ы штат Тэлангана. Шматлікія каментатары ў свеце лічыць, што гэтая падзея паўплывае на лёсы чалавецтва больш, чым цяперашні крызіс у Крыме.**




Індыя — не ўнітарная, а федэратыўная дзяржава, падзеленая на штаты і тэрыторыі. Першыя суб'екты федэрацыі пасля абвяшчэння незалежнасці фактычна былі створаныя на базе правінцый, якія падпарадкоўваліся брытанскаму губернатару, і рознага кшталту княстваў, якія фармальна былі незалежнымі. Зразумела, межы тых штатаў і правінцый мала адпавядалі этнічнай і моўнай сітуацыі. З 1956 года адміністратыўныя межы пачалі мяняцца адпаведна прынятаму Акту аб дзяржаўнай рэканструкцыі.

Публікацыі Акту папярэднічалі цікавыя дэбаты — па якім прынцыпе праводзіць межы ў Індыі? Перамогу ў гэтых спрэчках атрымала група палітыкаў, якія лічылі, што штаты павінны фармавацца паводле лінгвістычнага прынцыпу. Аднак раздзяляць краіну паводле моўнага прынцыпу аказалася вельмі не проста. Часта цэнтру прыходзілася шукаць кампрамісы з мясцовымі элітамі. На базе такога кампрамісу ўзнік і штат Андхра-Прадэш, дзе ў выніку былі вымушаны суіснаваць прадстаўнікі моўных груп урду і тэлугу.

Тым, хто размаўляў на тэлугу, чамусьці гэта хутка не спадабалася, і яны пачалі патрабаваць новай рэформы. Тым больш, у іх была незалежніцкая традыцыя. Пасля таго, як у 1947 годзе Індыя абвясціла незалежнасць, мясцовы князь катэгарычна адмовіўся ўваходзіць у склад новай краіны. Амаль год княства існавала як фактычна незалежная дзяржава. Цэнтральным уладам прыйшлося нават праводзіць спецыяльную паліцэйскую аперацыю, каб падавіць мяцеж. Аднак тэма неабходнасці свайго штату не знікла і ўвесь час агучвалася мясцовымі палітыкамі. Нарэшце, прыкладна ў 2001 годзе, узнікла асобная партыя за стварэнне штату Тэлангана — Telangana Rashtra Samithi (TRS)

Нягледзячы на тое, што лозунг стварэння штату Тэлангана існаваў даўно, на шляху рэалізацыі ідэі з'явілася шмат цяжкасцяў, галоўная з якіх звязаная з тым, што традыцыйна да эліты ў Андхра-Прадэш адносяцца ўрдумоўныя. Па статыстыцы, у дзяржаўным апараце толькі кожны дзясяты гаворыць на тэлугу. Пры гэтым калі 45 працэнтаў бюджэту штату фармуецца з падаткаў з тэрыторый, на якіх жывуць тыя, хто карыстаецца тэлугу. Нядзіўна, што праціўнікі сепаратызму як маглі ўстаўлялі палкі ў колы аматарам стварэння Тэлангана. І рашучасці ў прадстаўнікоў гэтага лагеру хапае. Як толькі 4 сакавіка сталі вядомыя вынікі галасавання, у парламенце пачалася бойка. У ходзе бойкі адзін дэпутат кінуў у іншага ноўтбук, а яшчэ адзін распыліў на апанентаў пярцовы газ

> 10 гадоў Хайдарабад будзе сталіцай і штату Андхра-Прадэш, і штату Тэлангана

з балончыка. Адразу пасля гэтага многія дэпутаты сталі кашляць і чхаць, некаторыя адчулі недамаганне, ім спатрэбілася медыцынская дапамога. Ужо па завяршэнні сутычкі міністр па справах парламента распавёў, што дэпутаты прынеслі з сабой на пасяджэнне нажы, газавыя балончыкі і іншыя падобныя прадметы.

Весела было 4 сакавіка і каля будынка парламента. Як піша газета «The Daily Star», на вуліцы дэпутатаў падтрымалі простыя індыйцы: прыхільнікі і праціўнікі стварэння новага штату сышліся ў рукапашнай, разнімаць бойку давялося паліцэйскім. Каля будынка парламента дзяжурылі не толькі ўзмоцненыя паліцэйскія патрулі, але і пажарная каманда, каб прадухіліць самаспаленне аднаго з дэпутатаў. Ён публічна абяцаў абліць сябе бензінам і падпаліць у выпадку прыняцця закона аб стварэнні новай тэрытарыяльнай адзінкі.

Праўда, сепаратысты — людзі не менш упартыя. Дастаткова сказаць, што толькі за апошнія дзесяць гадоў 300 чалавек публічна паконччылі з сабою, каб звярнуць увагу на праблему Тэлангана.

У красавіку індусаў запросяць абіраць новы парламент, і лідары партый імкліва ствараюць сабе прыцягальны імідж для розных адрасных груп электарату. Натуральна, прайсці міма патрабаванняў прыхільнікаў Тэлангана (дарэчы, у новым штаце будуць жыць 35 мільёнаў чалавек) можа толькі вельмі кепскі палітык.

Першай адчула кан'юнктуру партыя «Індыйскі нацыянальны кангрэс» (ІНК). Яшчэ ўлетку мінулага года яна правяла сумесны з сепаратыстамі стотысячны мітынг, на якім заявіла пра падтрымку іх праграмы. У кастрычніку 2013-га ідэя стварэння штату Тэлангана набыла контуры законапраекту. Дакумент пайшоў гуляць па розных парламенцкіх камітэтах і камісіях, пакуль 4 сакавіка канчаткова не стаў законам. Прынятае рашэнне набывае юрыдычную сілу ў чэрвені гэтага года. Праўда, патрэбны яшчэ подпіс прэзідэнта, аднак прэса піша, што гэта — справа тэхнікі.

Чаму падзеі ў далёкай частцы Індыі настолькі важныя для глабальных працэсаў? Па-першае, таму, што поспех сепаратыстаў Тэлангана — гэта прыклад для іншых этнічных і моўных груп Індыі, якія дабіваюцца стварэння сваіх адміністратыўных адзінак. Калі верыць той жа Wikipedia, у Індыі дзейнічаюць 27 ініцыятыў за стварэнне новых штатаў. Нават жыхары сталіцы патрабуюць, каб Дэлі атрымаў статус федэральнай тэрыторыі. Акрамя такога кшталту ініцыятыў у Індыі дзейнічае каля дзясятка мілітарных сепаратысцкіх рухаў, ад якіх на фоне апошніх навін можна чакаць актывізацыі.

Гэта ўжо зараз можна назіраць у рэгіёне Асам, дзе даўно дзейнічаюць моцныя сепаратысцкія рухі, звязаныя з палітычным ісламізмам. Як піша часопіс «Times of India»: «Працэс стварэння Тэлангана пераатварыў Асам у бочку з порахам, актывізаваў этнічныя групы, якія дабіваюцца стварэння сваіх штатаў».

Па-другое, і тыя, хто размаўляе на ўрду, і тыя, хто выкарыстоўвае тэлугу, змагаюцца за тое, каб пакінуць у межах сваіх штатаў горад Хайдарабад (цяперашняя сталіца штату Андхра-Прадэш). Хайдарабад — не проста горад, а адзін з сусветных цэнтраў высокіх тэхналогій. Тут знаходзяцца рэгіянальныя офісы такіх буйных кампаній, як Google і Microsoft. На цяперашні дзень вырашана, што наступныя 10 гадоў Хайдарабад будзе адначасова сталіцай як штату Андхра-Прадэш, так і штату Тэлангана. Аднак скептыкі кажуць, што кампаніям прыйдзецца існаваць у двух праваых палях. Такая сітуацыя абавязкова прывядзе да праблем, якія адлюструюцца на сусветным рынку IT.

І яшчэ адно наступства абвяшчэння ў Індыі 29-га штату. Падтрымаўшы дзеля папулізму рух на карысць стварэння Тэлангана, партыя «Індыйскі нацыянальны кангрэс» фактычна зрабіла прэцэдэнт. Цяпер фліРт з нацыянальным пытаннем можа стаць звычайным паліттэхналагічным прыёмам, што, на думку палітолагаў, у перспектыве пагражае адзінству Індыі. А гэта дазволіць Пекіну выйграць у Дэлі барацьбу за кантроль над Індыйскім акіянам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Анатоль Плугару



Экс-міністр дзяржаўнай бяспекі Малдовы нанёс удар па нацыянальнай годнасці украінцаў. Па словах Плугару, малдаване павінны рыхтавацца да таго, каб выстаўляць тэрытарыяльныя прэтэнзіі Украіне. У сваім інтэрв'ю аднаму з кішынёўскіх выданняў экс-міністр патрабаваў стварыць пры парламенце Малдовы спецыяльную дзяржаўную камісію, якая будзе займацца пытаннем «юрыдычна правільнага афармлення тэрытарыяльных патрабаванняў» на адрас Кіева. На думку Плугару, Малдова можа дабівацца выхаду да Чорнага мора за кошт часткі Адэскай вобласці, Букавіны і Падолля. У тым, што ў Малдовы ёсць усе шансы выйсці да Чорнага мора, экс-міністр не мае сумневаў, аналізуючы працэсы ў Крыму і на Усходзе Украіны. Па словах былога міністра, «праігнараваючы магчымыя эвалюцыйныя працэсы таго, што сёння адбываецца ва Украіне, нельга не ўлічваць магчымасць распаду краіны». Самае цікавае ў гэтай сітуацыі — тое, што Плугару адначасова жорстка крытыкуе ЗША і лічыць, што пераглядзіць кардон з Украінай малдаванам можа дапамагчы Расія. Між тым, аналагічныя прэтэнзіі на тыя ж самыя землі выставілі Кіеву румынскія нацыяналісты, якія маюць надзею, што іх тэрытарыяльныя апетыты падтрымае Вашынгтон. Застаецца дадаць, што заявы Плугару ва Украіне ўспрынялі хутчэй як жарт, аднак, калі меркаваць па каментарах, непрыемны асадак застаўся.

### Рэджэп Таіп Эрдаган



Прэм'еру Турцыі апошнім часам прыходзіцца не салодка. З аднаго боку, Эрдагана крытыкуе лева-ліберальная апазіцыя, якая не жадае прабачыць яму разгон мінулагодніх пратэстаў. З другога — у Эрдагана канфрантацыя з часткай ісламістаў. Вельмі напружаныя адносіны ў прэм'ера і з вайскоўцамі, якіх ён абвінавацiў у падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту. Між тым, хутка 30 сакавіка — дзень, калі ў Турцыі пройдуць муніцыпальныя выбары, якім апазіцыя надае вялізарнае значэнне. Каб гарантаваць поспех сваёй Партыі справядлівасці і развіцця, Эрдаган прапанаваў на гэты час забараніць у краіне Youtube і Facebook. Па словах Эрдагана, гэта «варожыя туркам сілы». «Я не дазволю, каб турэцкая нацыя сталі ахвярай Facebook і Youtube», — дадаў ён, выступаючы на адной з прэс-канферэнцый. Першай пад зачыстку трапіла відэаплатформа Youtube. Каментатары, аднак, лічаць, што барацьба з інтэрнэтам наўрад ці зможа стрымаць працэс эрозіі мадэлі Эрдагана. Дарэчы, прэм'ер паабяцаў, што ў выпадку пройгрышу выбараў 30 сакавіка падасць у адстаўку

### Рустам Мініханаў



Дэлегацыя пад кіраўніцтвам прэзідэнта Татарстана Мініханава наведала Крым, каб перакапаць крымскіх татар падтрымаць інкарпарацыю паўвострава ў склад Расіі. Падчас ваяжу было шмат слоў пра будучае эканамічнае супрацоўніцтва і маральную падтрымку крымска-татарскіх братоў з боку Татарстану. З улікам важнасці крымска-татарскага фактара для нармалізацыі сітуацыі ў Крыме, можна смела казаць пра як мінімум іміджавы перагляд месца Казані ў расійскай палітычнай прасторы. Відавочна, Татарстан выступае вітрынай Расіі ў ісламскім і цюркскім светах, і, на думку палітолагаў, можа запатрабаваць за гэта ад Крамля нейкія бонусы. Так, хутчэй за ўсё, Масква не будзе дабівацца ад Мініханава, каб ён адмовіўся ад тытулу «прэзідэнт», як гэта ўжо зрабілі пад ціскам цэнтру лідары іншых нацыянальных аўтаномій у Расіі. Магчыма, будзе ўзняты статус татарскай мовы. Між тым, хапае на гэты конт і скептыкаў. Яны лічаць, што надзеі Мініханава ўзняць ролю Татарстану за кошт Крыму не маюць шансаў.

14 сакавіка 2014 | № 10 (379) Новы Час

# Заходняя Беларусь: сакавіцкая мабілізацыя



**75 гадоў таму, 21 сакавіка 1939 года, амбасадар Польшчы ў Берліне Юзаф Ліпскі атрымаў з рук Рыбентропа спіс патрабаванняў Трэцяга Рэйху да Польшчы. Сэнс ультыматуму зводзіўся да наступнага: Польшча павінна адмовіцца ад «паморскага калідора» і пагадзіцца на нямецкую акупацыю Гданьска. Стала ясна — гэта вайна.**



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

## Хто будзе ваяваць?

23 сакавіка Варшава пачала ўтоеную мабілізацыю. У гэты перыяд у шыхты польскай арміі з рэзерву была паклікана вялікая колькасць беларусаў, жыхароў заходнебеларускіх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай.

Генеральны інспектар Войска Польскага маршал Эдвард Рыдз-Смігла выдаў загад аб фармаванні ў Заходняй Польшчы армій і аператыўных груп: «Нараў», «Модлін», «Намор’е», «Познань», «Лодзь», «Кракаў», «Прусы». Для папаўнення гэтых вайсковых груповак меркавалася ажыццявіць перакідку армейскіх падраздзяленняў з усходніх ускраін. «Сакавіцкая» мабілізацыя тычылася, перш за ўсё, падраздзяленняў 9-й (DOK IX) карпусной акругі, у якую ўваходзілі 9-я, 20-я, 30-я пяхотныя дывізій, Навагрудская кавалерыйская брыгада, а таксама 9-ы полк цяжкай артылерыі.



Польскія вайскоўцы ў Брэсце



Падпаручнік рэзерву Баляслаў Асціхоўскі

Беларускія жаўнеры 30-га палка лёгкай артылерыі з Пінска (30-я дывізія)





Жыхары Заходняй Беларусі, вясна 1939 года

Мабілізацыя праводзілася з дапамогай рассылкі імянных позваў. Пасля атрымання «karty powołania» рэзервіст быў абавязаны як мага хутчэй з’явіцца ў полк, да якога быў прыпісаны. Затым прыбыўшых падзялялі на групы, у адпаведнасці з іх вайскова-ўліковай спецыяльнасцю.

Сярод тых, хто ў сакавіку 1939-га атрымаў мабілізацыйную позву, быў падпаручнік рэзерву Баляслаў Асціхоўскі з мястэчка Пагост-Загародскі, Пінскага павета. Вось як ён апісваў мабілізацыйныя мерапрыемствы: «На пачатку 1937 года я пачаў працаваць настаўнікам. Мяне паважала школьнае кіраўніцтва і мясцовая грамадскасць. У мястэчку жылі ў асноўным палешукі і габрэі. У дзяржаўных установах працавалі прыезджыя, якіх мясцовыя называлі «ляхамі» і ляшкамі», гандаль быў у руках габрэяў, а беларусы ў асноўным займаліся наёмнай працай. У гміне было шмат маёнткаў, якія належалі Скірмунтам, Корсакам, Ордам ды іншым. У народа была нават такая прымаўка: «Co gruńcik, to Skirmuńcik, co krzaczek, to Korsaczek, co morda to Orda».

23 сакавіка было шмат працы ў школе. Падчас абеду да мяне прыйшоў начальнік пошты і ўручыў мабілізацыйную позву. Узяўшы афіцэрскі мундзір, які вісеў у шафе, я апрануўся і выйшаў на вуліцу. Дачка радасна бегала каля мяне і крычала, што едзе з татам на вайну. У мяне не было вайсковага шынялю, таму на мундзір прыйшлося апрануць футра. Так і паехаў. Ва ўсіх мястэчках панавала ажыўленне. Людзі развітваліся, былі чутны сумныя беларускія песні. На вакзале ў Парахонску было шмат людзей. Сюды прыехаў спецыяльны цягнік з Лунінца, для таго, каб забраць усіх мабілізаваных жыхароў Палесся і адвезці іх у Пінск . [ ...] Настрой у людзей быў бадзёры.

У Пінску адвёз дачку да маці і адправіўся да казарм 84-га пяхотнага палка. Там атрымаў накіраванне ў другую кулямётную роту. Як аказалася, я быў адным з першых афіцэраў рэзерву, якія прыбылі ў размяшчэнне палка. Неўзабаве мне выдалі каску, процігаз, пісталет «VIS» і, нарэшце, шынель. Напісаў развітальны ліст жонцы і папрасіў беларуса, у якога размяшчаўся наш узвод, перадаць пасланне разам з футрам жонцы. 25 сакавіка наш транспарт праз Кобрын, Жабінку, Брэст паехаў на захад».

## Беларускія абаронцы польскай айчыны

У большасці польскіх справаздач аб правядзенні «сакавіцкай мабілізацыі» падкрэсліваецца, што значная колькасць рэзервістаў, якія прыбылі ў размяшчэнне частак, былі выхадцамі з Заходняй Беларусі. Да таго ж гэтыя людзі былі настроеныя вельмі патрыятычна. У адной са справаздач 30-й пяхотнай дывізіі адзначалася: «24 сакавіка з самай раніцы назіраўся масавы наплыў рэзервістаў. Цягнікі былі перапоўненыя людзьмі з позвамі. Рэзервісты ехалі нават на дахах вагонаў. Усе гэтыя людзі былі выхадцамі з усходніх ваяводстваў».

У дакументах 12-й стралковай роты 84-га пяхотнага палка адзначалася, што ў яе асабістым складзе былі ў асноўным палешукі (беларусы — І.М.) і палякі, прычым першыя дамінавалі. Са справаздач афіцэраў 20-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага, якая ў сакавіку 1939 года таксама знаходзілася ў стадыі мабілізацыі, вынікае, што беларусы масава прыходзілі на прызыўныя пункты і заяўлялі пра сваё жаданне абараняць радзіму ў вайне з Германіяй.

У некаторых мясцовасцях Пінскага павета мабілізацыйныя позвы былі ўручаны толькі грамадзянам каталіцкага веравызнання. Гэты факт выклікаў хвалю абурэння ў праваслаўных жыхароў павета, якія патрабавалі, каб у войска запісвалі не толькі «палякаў», але і праваслаўных беларусаў, бо яны таксама хочуць «змагацца супраць Гітлера».

## Гладка было на паперы

Нягледзячы на знешне спакойны парадак правядзення мабілізацыі, не абышлося і без праблем. Мясцовае насельніцтва супраціўлялася рэквізіцыі гужавога транспарту і коней. У дзённіку падпаручніка 84-га пяхотнага палка Караля Шуберта адзначалася: «Для сялян была сапраўдная трагедыя, калі мы прыходзілі, каб забраць коней. Жанчыны плакалі, крычалі па-беларуску: «Не бяры яго!». На Слонімшчыне некаторыя сяляне хаваліся ў лясах разам са сваімі коньмі і фурманкамі. Такія ж з’явы назіраліся ў Дзісненскім і Вілейскім паветах. Сітуацыя нармалізавалася, калі польскія вайсковыя ўлады сталі расплачвацца з сялянамі за коней і падводы наяўнымі грошамі.

Была праблема з абмундзіраваннем. Напрыклад, рэзервісты, якія прыбылі на зборны пункт 20-й пяхотнай дывізіі, вымушаныя былі доўга чакаць, пакуль іх пераапрануць і выдадуць рыштунак. Падобныя сітуацыя была і ў 30-й пяхотнай дывізіі, дзе частка ўніформы, выдадзенай рэзервістам, была старой і паношанай. Афіцэрам часта даводзілася хадзіць па размяшчэнні часткі ў цывільных паліто і футрах. Не хапала транспарту для перавозкі, рыштунку, зброі і боепрыпасаў.

Аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя складанасці, польскаму вайсковаму кіраўніцтву ўдалося паспяхова завяршыць мабілізацыйныя мерапрыемствы. Да канца сакавіка папоўненыя навабранцамі часткі з усходу прыбылі да месца новага прызначэння. На месцах былой дыслакацыі гэтых падраздзяленняў былі створаны мабілізацыйныя цэнтры, якія павінны былі фарміраваць рэзервы.

У адпаведнасці з загадам камандуючага карпусной акругі DOK IX брыгаднага генерала Францішка Клееберга ад 29 сакавіка 1939 года, на тэрыторыі гарнізонаў вайсковыя ўлады павінны былі арганізаваць заняткі па падрыхтоўцы навабранцаў. Акрамя гэтага, 1 красавіка міністр вайсковых спраў выдаў загад, у якім акрэсліваліся асаблівасці арганізацыі мабілізацыйна-падрыхтоўчых цэнтраў у Баранавічах, Слоніме, Брэсце, Кобрыне, Пінску, Лунінцы.

Нягледзячы на пачуццё надыходзячай вайны, беларускае насельніцтва, у сваёй большасці, спакойна сустрэла польскія прыгатаванні да вайны. «На тэрыторыі Навагрудчыны, асабліва ў Навагрудскім павеце адзначаецца значнае аслабленне дзейнасці беларускага нацыяналістычнага руху. Дзейнасць супраць дзяржавы амаль спынілася і адзначаецца прыхільнае стаўленне беларускага насельніцтва да рашэнняў польскага ўрада. Насельніцтва Палесся, якое ў справе Заользя прадэманстравала варожае стаўленне да Польшчы, спадзяючыся на хуткую польска-савецкую вайну, сёння змяніла свае погляды і выступае за абарону польскай дзяржавы ў магчымым канфлікце з Германіяй», — адзначалася 28 красавіка 1939 года ў штотыднёвым данясенні камандавання IX карпусной акругі (Брэст) да Міністра вайсковых спраў.

## Баявое хрышчэнне

9-я пяхотная дывізія, да сакавіка 1939 года дыслакаваная ў Седльцах, была ўключана ў склад арміі «Намор’е». У першыя дні вайны яна геранчна абараняла так званы «паморскі калідор». Падраздзяленні 20-й «крапасной» дывізіі з Баранавічаў, якія першапачаткова меркавалася выкарыстаць для нясення службы на пазіцыях Баранавіцкага ўмацаванага ўчастку, былі перакінутыя ў раён мяжы з Усходняй Прусіяй. Жаўнеры гэтага вайсковага злучэння з першых дзён Другой сусветнай змагаліся ў ДАКах пад горадам Млава і не далі немцам адразу прарвацца да Варшавы. Мужнасцю палешукоў захапляліся як палякі, так і немцы. Нарэшце, 30-я палеская дывізія ўвайшла ў склад арміі «Лодзь» і абараняла пазіцыі на рэках Варта і Вісла, а таксама ўдзельнічала ў абароне крэпасці Модлін.

Вераснёўская кампанія 1939 стала складаным іспытам для шматнацыянальнага польскага войска. Нягледзячы на ўсе крыўды і прэтэнзіі да польскіх уладаў, якіх было дастаткова ў беларусаў, нашы суайчыннікі ў сваёй большасці з гонарам прайшлі тыя выпрабаванні. Многія з іх назаўсёды засталіся на палях бітваў, іншыя прайшлі пекла нямецкага палону. Трэція апынуліся ў савецкім палоне, а затым ужо ў шэрагах арміі Андэрса біліся з нацыстамі на заходнім фронце.

# Хто застрэліў Ганну Кароль?

**Гучнае палітычнае забойства на Слонімшчыне ў першыя пасляваенныя гады адбылося 1 снежня 1947 года. У вёсцы Шылавічы была застрэлена дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і Шылавіцкага сельсавета 45-гадовая Ганна Кароль.**



Сяргей ЧЫГРЫН



**Пахаванне Ганны Кароль у Слоніме, снежань 1947 г. Фота з архіву аўтара**

Прайшло ўжо шмат дзесяцігоддзяў, але старэйшыя жыхары Слонімскага раёна памятаюць гэты дзень, і кожны з іх пра смерць дэпутаткі выказвае свае меркаванні.

## Змагарка

Слонімскі паэт Анатоль Іверс Ганну Кароль заўсёды называў змагаркай. І сапраўды, жанчына была смелая, мужная і самаадданая.

Нарадзілася яна ў 1902 годзе ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Скончыла пяць класаў мясцовай школы. З 1915 па 1922 гады працавала па найму ў заможных сялян, а потым на сваёй гаспадарцы.

Калі Слонімшчына апынулася пад Польшчай, Ганна Кароль адразу далучылася да падполля. У 1925 годзе яна ўступіла ў кампартыю Заходняй Беларусі і стала сакратаром мясцовай партячэйкі. Яна з сяброўкамі вяла агітацыю ў роднай вёсцы Чамяры, а таксама хадзіла па суседніх вёсках, раздаючы падпольную літаратуру, вывешвала лістоўкі каля Чамяроў, Касцянёў, Хадзявічаў і іншых навакольных вёсак.

Паліцыя хутка дазналася пра актыўныя дзеянні Ганны Кароль. Яны сталі за ёй уважліва сачыць. А 14 сакавіка 1928 года Ганну арыштавалі. За прыналежнасць да КПЗБ і ўдзел у вулічнай дэманстрацыі польскі суд прыгаварыў беларускую дзяўчыну да двух з паловай гадоў зняволення.

У канцы 1930 года яна выйшла на волю і зноў узялася за сваю справу. Хутка яе выбіраюць членам Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ.

У снежні 1932 года яе зноў арыштавалі і пасадзілі ў турму на шэсць гадоў. Трэці раз разам з сяброўкай Верай Іскрык яе арыштавалі 1 верасня 1939 года і адправілі ў Картуз-Бярозу. А 17 верасня Ганна Кароль вярнулася на родную Слонімшчыну.

Ганна актыўна ўключылася ў грамадска-палітычнае жыццё. Спачатку яе выбралі старшынёй сялянскага камітэта ў вёсцы Чамяры, затым — старшынёй Парэцкага сельсавета Слонімскага раёна. Падчас вайны Ганна перабралася ў Шклоў да сваёй сястры. Чым яна займалася ў Шклове — застаецца загадкай. Але пасля вайны Ганну Іванаўну ўзнагародзілі медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гг».

## Смяротны стрэл у вакно

Пасля вяртання на Слонімшчыну Ганну адразу выбралі старшынёй Шылавіцкага сельскага Савета.

Жыхар Слоніма Мікалай Ракевіч успамінае: «Я вучыўся ў Азярніцкай школе і памятаю, як да нас у 1946 годзе прыязджала і выступала ў сельскім клубе Ганна Кароль. Яна была апранута ў кажушок, сама невысокага росту. Выступала яна на той мове на якой размаўляў тутэйшы люд на Слонімшчыне. Казала жанчына, што трэба аднаўляць пасля вайны народную гаспадарку. Людзей прыйшло поўны клуб, усе слухалі ўважліва і пагаджаліся з тым, што казала мясцовая актывістка».

9 сакавіка 1947 года Ганну Кароль выбралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. А праз дзесяць месяцаў, 1 снежня 1947 года, яе не стала.

Вечарам Ганна Кароль вярнулася з чарговага сялянскага сходу дамоў. Села каля лямпы за сталом прагледзець пратаколы, запісы. І раптам з вуліцы ў вакно ўляцела куля. На стрэл прыбеглі суседзі. Жанчыну хутка адвезлі ў Слонім у раённую бальніцу, дзе яна праз чатыры гадзіны памерла.

Яе пахавалі ў Слоніме, а на магіле ў 1949 годзе ўстанавілі чатырохгранны абеліск. Слонімская раённая газета «Вольная праца» тады апублікавала сціплы некралог: «На баявым пасту загінула старшыня Шылавіцкага сельскага Савета, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Ганна Іванаўна Кароль...». Некралог падпісалі слонімскія кіраўнікі райкама і райвыканкама.

Забойства Ганны Кароль так і засталося не раскрытым. Пра гэта забойства ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь нічога не згадваецца. Няма звестак пра забойства дэпутата Ганны Кароль і ў Занальным дзяржаўным архіве ў г. Навагрудку.

## Версіі забойства

Хто ж застрэліў Ганну Кароль? Такое пытанне я задаў сёння таму ж настаўніку-пенсіянеру Мікалаю Іванавічу Ракевічу.

Ён сказаў: «На гэты конт я раскажу табе анекдот-быль, які вельмі папулярны быў у тыя 1940–1970-я гады. Вёз на калгаснай грузавой машыне вясковы шафёр старшыню калгаса. Раптам яны з'язджаюць у рышток, машына перавярнулася і... загінуў старшыня калгаса. Шафёр застаўся жывы, вылез з кабіны, закурыў і кажа: «Што загінуў старшыня калгаса — гэта не бяда: райкам партыі заўтра новага прышле, а вось машыну прыйдзецца рамантаваць». Вядома, што замест Ганны Кароль прызначылі ў Шылавічы новага старшыню сельсавета. Але ж каму перашкаджала слонімская актывістка? Афіцыйна лічылася, што жанчына загінула ад рук «ворагаў народа». Былы старшыня адной з гаспадарак Слонімшчыны Эдуард Арочка, які жыве ў вёсцы Міжэвічы, на маё пытанне пра смерць Ганны Кароль сказаў: «У той час на Слонімшчыне быў забіты і яшчэ адзін старшыня сельсавета, нехта Сончык. Казалі, што іх забілі банды. Але ж напрыканцы 1947 года на Слонімшчыне ўжо не было ніякіх бандаў. А мясцовая актывістка, відаць, некаму перашкаджала, вось яе і ліквідавалі».

У вёсцы Хадзявічы жыве Ніна Фёдараўна Баль, якая таксама добра памятае Ганну Кароль: «Гэта была родная цётка майго мужа Уладзіміра. Я памятаю, як мы бегалі слухаць выступленні Ганны Іванаўны. Тады людзі казалі, што яе забілі тыя, хто яе зрабіў дэпутатам».

Гісторык Сяргей Ёрш на маё пытанне сказаў: «Так, я калісьці таксама чуў версію, што маглі і ўлады з Кароль разабрацца. Але ні тады, ні цяпер не бачу прычынаў гэта рабіць. Тым больш, на наступны дзень пасля забойства, 2 снежня 1947 года, Цанава трымаў, верагодна, запланаваную раней справаздачу перад бюро ЦК КП(б)Б пра змаганне з антысавецкім падполлем на працягу года. Яму нявыгадна было дапускаць у гэты час забойства дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. А ініцыятыва мясцовага аддзела МГБ проста немагчымая. Таму, мусіць, былі нейкія тайныя прычыны, нам пакуль невядомыя. Можа, нехта з мясцовых, можа, не толькі нянавісць да ўлады, можа, і нешта асабістае было...».

Слонімскі гісторык Ігар Падгарадзецкі, які цяпер жыве ў Германіі, пра смерць Ганны Кароль паведаміў наступнае: «Мая маці добра ведала Ганну Кароль, але я ніколі ў яе на гэту тэму не размаўляў. Яна казала толькі, што Ганна была вельмі папулярнай сярод землякоў, што стралялі ў яе праз вакно з пісталета. І што пра вёску Шылавічы ў пасляваенны час людзі казалі, што гэта бандыцкая вёска».

Вёска Шылавічы на Слонімшчыне і пры Польшчы лічылася адной з найбольш рэвалюцыйных. Пасля таго, як у верасні 1939 года Заходняя Беларусь адышла ад Польшчы, шылавіцкія «актывісты» пачалі здзекавацца з мясцовых жыхароў, зводзіць асабістыя рахункі, помсціць нават за дробязныя крыўды.

Аднойчы гэтыя былыя «актывісты»-бязбожнікі пад кіраўніцтвам начальніка валаснай чырвонай гвардыі ў Шылавічах Фамы Кузняцова (прозвішча зменена па розных прычынах, сапраўднае аўтару вядома. — С.Ч.), дарэчы, былым палітвязнем польскіх турмаў, сагналі сялян да гумна, якое стаяла на беразе Шчары, і пачалі здзекавацца з аднаго з багатых людзей вёскі, мясцовага пана. Яны запрэглі яго ў воз і каталіся. А праз некалькі дзён «актывісты» закатавалі мясцовага святара Андрэя Куца і яго жонку Алену. Спачатку бандыты абрабавалі дом святара, прапаролі кіем жывот Алене, а айцу Андрэю выкалалі вочы, адрэзалі язык, нос, вушы, а пасля адвезлі і кінулі мёртвых у балота каля Шчары, а потым закапалі ў лесе. Іх пасля шукалі пашукавікі-вяскоўцы, але нічога не знайшлі. Але быў сведка гэтага злачынства і паказаў месца ў лесе. Святара і іншых забітых вяскоўцы адкапалі і перазахавалі. Такі лёс чакаў і лесніка Самсоніка з гэтай вёскі. Вось у гэтай вёсцы і прыйшлося жыць і працаваць Ганне Кароль.

Як толькі застрэлілі яе, да старшыні Слонімскага райвыканкама Івана Дабрыяна прыйшлі супрацоўнікі НКУС і пачалі дапытвацца, а што ў гэты вечар рабіў і дзе быў Іван Дарафеевіч Міско (паэт Анатоль Іверс). Дарэчы, у 2012 годзе мне прыйшлося рыхтаваць да 100-годдзя трохтомнік твораў Анатоля Іверса (Івана Міско), у адну з кніг «З глыбінь жыцця» (Мінск, «Кнігазбор», 2012) я ўключыў і ўспамін Анатоля Іверса пра Ганну Кароль. На старонках 183–184 ён успамінае: «Перабіраючы ў памяці тыя трагічныя падзеі, аж цяпер шкура шэхне. Няўжо слонімскія і рэспубліканскія Шэрлак-Холмсы, у якіх я быў на падазрэнні, не ведалі, што ў мяне з Ганнай Кароль былі нармальныя, прыязныя адносіны. Ці можа самі следчыя не валодалі нармальным чалавечымі якасцямі? Няўжо яны не цікавіліся тымі асобамі, што замучылі святара?..»

Далей ён прыгадвае: «Неяк я хацеў удакладніць дату гібелі заслужанай землячкі, але ні ў музеях, ні на Слонімскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, калектыў якой трымае шэфства над магілай Ганны Іванаўны, не ведаюць дакладнай даты нараджэння і смерці. На фабрыцы некалі быў альбом, прысвечаны жанчыне, але камсамольцы аддалі яго ў райкам камсамолу, дзе і згубіліся яго сляды...»

Але як не замятай сляды, яны ўсё ж застаюцца не замеценыя. На днях патэлефанаваў аднаму са старэйшых жыхароў вёскі Чамяры Пятру Фёдаравічу Бурсевічу і спытаў, ці чуў ён што-небудзь пра Ганну Кароль. «Вядома ж, гэта мая зямлячка з Чамяроў. Пасля вайны яе застрэлілі Кузняцоў са сваёй бандай...» — адказаў Пятро Фёдаравіч.

Пра Ганну Кароль таксама ў Слоніме не забыліся. Яе імем названа адна з вуліц горада. А ў пачатку вуліцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Праўда, аднойчы падчас аварыі яе збіла машына. І больш за паўгода шыльду не аднаўлялі. Гісторык Сяргей Ёрш патэлефанаваў намесніку старшыні Слонімскага райвыканкама. На трэці дзень яе аднавілі, знайшлі тую, арыгінальную, якая стаяла там дзясяткі гадоў.

Нядаўна я наведаў вялікі школьны Народны музей у СШ №4 г. Слоніма. У адной з залаў убачыў бюст Кузняцова. Ён глядзіць проста на адзін са стэндаў, на якім знаходзіцца сціплы здымачак Ганны Кароль. Тут яны — побач, гісторыя іх яшчэ не рассудзіла: хто варты ганаровага месца ў музеі, а хто не.

# Фолк-бамонд заве

**Вядомы кампазітар і рок-музыкант, беларускі этнограф Юрый «Франц» Выдронак збірае айчынны фолк-бамонд у гонар старажытнага свята славянскага народнага календару — вясенняга Юр'я (Ярылы), падчас якога адбывалася адмыканне зямлі, адзначаўся сапраўдны пачатак вясны.**

Анатоль МЯЛЬГУЙ






Гэтае асучасненае фальклорнае свята будзе мець назву folk-bomond fest «Таўкачыкі на Юр'я» і адбудзецца 23 красавіка ў сталічным клубе RE:PUBLIC.

Пра тое, што будзе чакаць аматараў сучасных апрацовак нацыянальнага фальклору на folk-bomond fest «Таўкачыкі на Юр'я», нам распавядае сам арганізатар шоу Юрый Выдронак:

«Непасрэдна ў клубе адбудзецца рэканструкцыя старажытнага абраду з сапраўдным юр'еўскім караваем, які спецыяльна да фэсту спякуць у сялянскай печы і прывязуць у сталіцу спявачкі з гурта «Глыбокія крыніцы» вёскі Закальное Любаскага раёна (мастацкі кіраўнік — Н. Мірэйчык). Гурт існуе больш за 70 гадоў і вызначаецца вельмі каларытнымі строямі і шчырым артыстызмам. Пры тым, калектыў захоўвае своеасаблівую аўтэнтычную манеру спеваў, якая, дарэчы, папоўніла спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Паводле народных уяўленняў, абрад Юр'я з'яўляецца гарантыяй добрага ўраджаю, а значыць, і паўнаты жыццёвай энергіі чалавека на працягу года. Рэканструкцыю абраду Юр'е правядуць народныя спявачкі з калектыву «Талака», а гледачы змогуць прыняць у ім удзел і дапамагчы ў яго правядзенні».

Трэба адзначыць, што ў folk-bomond fest «Таўкачыкі на Юр'я» прымуць удзел вядомыя беларускія фолк-выканаўцы, сярод іх — фолк-рок-гурт «Бан Жвірба» (Гомель), які прымаў удзел у самых першых «Таўкачыках» у 2000 годзе, а таксама этна-эмбіент-гурт «Дзівасіл», сучасныя выканаўцы фальклору і дударскай музыкі — гурты «Ветах», «Талака», Наталля Матыліцкая, арт-фолк-гурты «Альтанка», Маша Яр і «Хоха бэнд». Упершыню на фэсце будуць прадстаўлены гурты «BY CRY» і «Літы Талер». У якасці хэдлайнера на фэсце выступіць легендарны фолк-рок-гурт «UR'IA», які больш вядомы па гастрольных і фестывальных выступах на сцэнах Еўропы.

Больш падрабязную інфармацыю пра folk-bomond fest «Таўкачыкі на Юр'я-2014» можна атрымаць, калі зайсці на асабістую інтэрнэт-старонку Юрыя Выдронка: yuryvydronak.com

# Зоны гасціннасці

**«Зоны гасціннасці» ў Мінску да чэмпіянату свету па хакеі пачнуць працаваць 1 мая. Аб гэтым паведаміла прэс-служба Міністэрства гандлю.**




Усяго будуць дзейнічаць тры такія зоны — каля Палаца спорту, у студэнцкай вёсцы і лядовым палацы на вуліцы Прытыцкага.

Зона гасціннасці, якая размесціцца каля Палаца спорту, будзе займаць тэрыторыю плошчай 13 тыс. кв. м. Абслугоўваць яе будуць каля 700 чалавек. Сувенірную прадукцыю там будуць прадаваць сталічныя і прыезджыя рамеснікі.

Акрамя гэтага, у аб'ектах грамадскага харчавання студэнцкай вёскі будзе створана амаль 2 тысяч месцаў.

Як паведаміла прэс-служба Мінгандлю, каардынаваць работу аб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання падчас чэмпіянату свету па хакеі 2014 года будзе рэспубліканскі штаб. Плануецца, што ў штаб, які размесціцца ў Міністэрстве гандлю, будзе збірацца для наступнага аналізу ўся інфармацыя арганізацый гандлю і грамадскага харчавання Мінска, якія будуць абслугоўваць правядзенне міжнароднага спартыўнага мерапрыемства. Чакаецца, што рэспубліканскі штаб будзе працаваць практычна кругласутачна з 7 па 26 мая 2014 года.

БелаПАН



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 333

Падпісана да друку 14.03.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.